*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*

*Алег Лойка*


# Слонімскі край

2021, № 3(62). Сакавік


СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

## Вучні і настаўнікі Чамяроўскай пачатковай школы, 1924 год



*Працяг на ст. 2*

## Легендарная Зося

*У 1980 годзе першы пратэст працоўных у Польшчы ачоліла сланімчанка*

“Я памятаю, нібыта, гэта было ўчора, — успамінае Уршуля Радэк. — Зоська выйшла на лесвіцу перад адміністрацыйным будынкам… Яна сказала: *“…Праблемы, якія прывялі да забастоўкі, узніклі не раптоўна, і з гадамі павялічваліся. …Цярпенне чалавечае скончылася, іх трэба вырашаць!”.*



*Працяг на ст. 4*

# Вучні і настаўнікі Чамяроўскай пачатковай школы, 1924 год

*Працяг, пачатак на ст.1.*

У 2006 годзе выйшла з друку мая кніга “Чамяры і чамяроўцы”. Калі б я тады меў пад рукамі гэты рэдкі фотаздымак вучняў і настаўнікаў Чамяроўскай пачатковай школы 1924 года, я абавязкова змясціў бы яго на першую старонку вокладкі. Здымку гэтаму амаль 100 гадоў. Ён друкуецца ўпершыню.

На жаль, ніхто ўжо не скажа і не падкажа, хто сфатаграфаваны сярод настаўнікаў і вучняў. Ведаю толькі, што сярод усіх гэтых чамяроўцаў ёсць чатыры чалавекі — Іван Міско, Феакціст Міско, Якуб Міско і Мікалай Бурсевіч. Яны былі амаль равеснікі і ўсе нарадзіліся ў Чамярах.

Іван Міско (1912 — 1999), будучы паэт Анатоль Іверс, успамінаў: *“Чытаць і пісаць па-руску мяне навучылі бацькі. І калі я пайшоў у польскую пачатковую школу, яшчэ больш як год прыйшлося “перавучвацца”, каб навучыцца так чытаць і пісаць, як я да гэтага ўмеў па-руску”.*[1]

Далей Іван Міско ўспамінае: *“У час летніх канікул 1926 года ў Чамяры прыехаў старшакласнік Віленскай беларускай гімназіі Казімір Чартовіч. Ён рыхтаваў групу моладзі, у тым ліку і мяне, да паступлення ў гімназію. А восенню восем нашых юнакоў сталі беларускімі гімназістамі…”.* [2]

Уяўляеце, з гэтых юных нясмелых чамяроўцаў у адзін год восем хлопчыкаў паступілі ў Віленскую беларускую гімназію! Прозвішчы ўсіх назваць не магу, але ў 1926 годзе студэнтамі Віленскай беларускай гімназіі сталі Іван Міско, Мікалай Бурсевіч, Якуб Міско і Феакціст



*Феакціст Міско*



*Іван Міско (Анатоль Іверс)*

Міско. У слонімскай кнізе “Памяць” напісана, што Якуб Міско (1911 — 1981) паступіў у Віленскую беларускую гімназію ў 1925 годзе.[3] Але гэта значэння не мае. Галоўнае, што паступілі і вучыліся ў Вільні.

Мікалай Бурсевіч у сваёй аўтабіяграфіі[4] прыгадвае, што ў 1926 годзе ён паступіў у Віленскую беларускую гімназію. *“Там мяне спачатку прынялі ў падпольныя піянеры, а пасля ў падпольны камсамол,* — піша ён. — *Як камсамолец, удзельнічаў у некалькіх вулічных дэманстрацыях, якія арганізоўваў гарадскі камітэт кампартыі, раскідваў на віленскіх вуліцах падпольныя лістоўкі, адзін раз гэта рабілі разам з паэтам-земляком Валянцінам Таўлаем. З ім мяне звязвала і ідэйная, і асабістая дружба. Некаторы час мы сядзелі за адной партай у гімназіі…”.*

Феакціст Міско быў арыштаваны польскай паліцыяй і атрымаў 12 гадоў турмы. У гады вайны ён арганізоўваў падпольны і партызанскі рух, трагічна загінуў. Вельмі паважаны быў чалавек сярод сваіх землякоў і, наогул, на Слонімшчыне. Смерць яго была вялікай стратай.

Дарэчы, у 1925 годзе з дапамогай сваіх землякоў беларускі інтэлігент і педагог Максім Бурсевіч (1890 — 1937) адкрыў у Чамярах прыватную беларускую школу. Знайшлася прасторная хата якраз пасярэдзіне вёскі. Выпісалі з Вільні сякія-такія падручнікі. Мужчыны парабілі парты, і заняткі пачаліся. Цеснавата было, не хапала кніжак і сшыткаў, але дзеці з вялікім настроем беглі ў школу. У сваю школу, дзе гучала родная мова. Але тады Максім Бурсевіч адчуваў, што за беларускую школу польскія ўлады яго не пагладзяць па галоўцы. І тым не менш, ён рабіў усё, каб у самадзейнай школе было так, як у сапраўднай, а можа нават і лепш. Там вучылі не толькі пісаць і чытаць, але пачалі наладжваць вечары мастацкай самадзейнасці, у якіх прымалі ўдзел і вучні, і іх бацькі. Яны дэкламавалі беларускія вершы,



Мікалай Бурсевіч

спявалі песні, паказвалі сцэны з “Паўлінкі”, “Прымакоў” і з іншых п’ес.

Тры месяцы існавала беларуская школа ў Чамярах. Усё, здавалася, ішло добра, пакуль аднойчы ў час заняткаў у клас не ўвайшлі два паліцыянты. Адзін з іх аб’явіў, што школа зачыняецца, таму вучні могуць ісці дахаты.

Так у Чамярах закрылі родную школу. Беларускія паслы ў польскім парламенце рабілі запыт міністру асветы, патрабавалі растлумачыць, на якой падставе ў вёсцы Чамяры Слонімскага павета была закрыта беларуская школа? Чаму парушаецца Канстытуцыя Рэчы Паспалітай? Але гэта не дапамагло. У вёску прыслалі новага настаўніка-паланізатара, які пачаў агітаваць бацькоў, каб іх дзеці ішлі вучыцца ў польскую школу. Пра барацьбу чамяроўцаў за родную школу сведчыць артыкул “Барацьба сялян вёскі Чамяры за адкрыццё беларускай школы”, які быў змешчаны ў газеце “Савецкая Беларусь” за 4 сакавіка 1925 года. Вось што пісала тады газета: “Першага сакавіка ў Чамярах адбыўся сельскі сход, скліканы па загаду гміны. Грамада сабралася вялікая, каля 75 асоб. Сакратар гміны запрапанаваў сходу, каб усе дзеці, якія хадзілі ў прыватную беларускую школу, зараз жа пайшлі да школы польскай. Калі не пойдуць, дык бацькі будуць пакараны штрафамі, а гміна сцягне і тыя штрафы, якія былі накладзены на вёску ў лістападзе. Абапіраючыся на тое, што цяпер вёска беларускай школы не мае і дзеці зусім не вучацца, інспектар і гміна прымусяць дзяцей пайсці да школы польскай. Сход гэтай заявай быў абураны, і грамада пачала прасіць сакратара гміны запісаць пратакол: *“Каб вучыцеля з Чамяроўскай польскай школы ўлады найхутчэй забралі і перавялі ў тую вёску, дзе ёсць шмат палякаў, а ў Чамяроўскую школу, каб далі таго, каго вёска папросіць і дзеці-вучні пажадаюць. А пакуль гэных змен не будзе, пакуль польскі вучыцель будзе ў школе біць дзяцей за тое, што яны не разумеюць польскай мовы, дык ніводнае дзіця не пераступіць парога польскай школы. Хай не толькі штрафуюць бацькоў за дзяцей, але катуюць іх за дзяцей, бацькі не згодзяцца пасылаць сваіх дзяцей на катаванне, а дзеці, хто як зможа, будуць уцякаць ад ката”.* Сакратар гэтай заявы ад сходу запісаць адмовіўся, аднак, мусіць баючыся абуранага настрою сходу, абяцаў жаданне сходу абгаварыць на паседжанні гміннай рады. На гэтым сход і закончыўся…”.



Максім Бурсевіч



Якуб Міско

Але вернемся да старога фотаздымка. Які лёс гэтых хлопчыкаў і дзяўчынак з Чамяроў, што на здымку, чакаў наперадзе — ніхто не ведаў. Кожны з іх марыў мець сваю зямлю, сям’ю, дзяцей і быць шчаслівым. Але наперадзе была яшчэ вайна, рэпрэсіі і калектывізацыя.

●Сяргей Чыгрын


*[1] Вытокі песні. — Мінск, 1973. С. 82.*

*[2] Вытокі песні. С. 83.*

*[3] Памяць: гісторыка-дакументальная хроніка Слонімскага раёна. — Мінск, 2004. С. 642.*

*[4] Аўтабіяграфія захоўваецца ў аўтара гэтага тэксту.*

# Легендарная Зося

*Працяг, пачатак на ст. 1*

Так Зося Барткевіч увайшла ў гісторыю. Усе баяліся выступіць адкрыта першым, і тады наперад выйшла яна. Ёй таксама было страшна, але яна перамагла страх. І натхніла іншых. Гэтая смелая жанчына нарадзілася ў нашым горадзе.

Зоф'я Данута Барткевіч (дзявочае — Радзевіч) з'явілася на свет 21 студзеня (па іншых звестках — 20-га) 1932 года ў Слоніме. Яе бацька — былы польскі вайсковец Віктар Радзевіч, маці — Марыя Радзевіч (Ярмаловіч), якая ўтрымлівала гасцініцу. У верасні 1939-га бацька ваяваў, трапіў у нямецкі палон, быў перададзены бальшавікам, якія адправілі яго на 15 гадоў у лагер. Усяго тэрміну не адсядзеў — у 1948-м прыехаў у Польшчу, дзе ўжо знаходзілася сям'я. Зоф'я з маці і братам выехалі нелегальна са Слоніма ў 1944 годзе на захад і спыніліся ў Любліне. На гэтым іх пакуты не скончыліся, бо ў 1949-м польская служба бяспекі арыштавала бацьку і ён 2,5 гады адсядзеў у турме ў ПНР.

Зоф'я з 1952 года жыла ў горадзе Свіднік недалёка ад Любліна. Два гады працавала настаўніцай геаграфіі, займалася "харцэжамі" (скаўтамі), а пасля ўладкавалася на мясцовы завод камунікацыйнага абсталявання (WSK Świdnik), які з часам стаў адным з найбуйнейшых еўрапейскіх вытворцаў верталётаў, выпускаў і матацыклы. Яна выконвала розныя абавязкі, павышала сваю адукацыю. На 1980 год Барткевіч была тэхнолагам.

Зоф'я вельмі актыўна займалася грамадскімі справамі, з 1955-га была дэпутатам гарсавета, павятовага савета, уступіла ў правячую Польскую аб'яднаную рабочую партыю. У 1955-м стварыла сям'ю (муж — Рамуальд Тадэвуш Барткевіч — быў электрыкам на прадпрыемстве), нарадзіла дзве дачкі. У іх была двухпакаёўка. Жанчына цудоўна гатавала, любіла салодкае. А яшчэ добра танчыла, у вольны час вышывала...



*Зоф'я Барткевіч*

У 1980 годзе ўлады камуністычнай Польшчы, спасылаючыся на крызіс у эканоміцы краіны, неаднаразова павышалі цэны на прадукты, цыгарэты, бензін. У пачатку ліпеня значна падаражэла мяса, што рабочыя заўважылі ў сваіх сталоўках. Па краіне пачаліся кропкавыя страйкі. 8 ліпеня спыніўся завод у Свідніку. Патрабаванні былі эканамічныя (павышэнне заробкаў, зніжэнне цэн і г. д.).

*"У гэтым натоўпе ніхто не меў сілы загаварыць першым"*, — успамінае Уршуля Радэк. І тады патрабаванні агучыла тэхнолаг Барткевіч. Яе абралі кіраўніцай камітэта на прадпрыемстве.

Падчас страйку прадстаўнікі ўладаў спрабавалі падкупіць Зоф'ю Барткевіч, прапаноўвалі кватэры для дзяцей, магчымасць набыць машыну. Але яна адрынула гэтыя прапановы. 11 ліпеня патрабаванні страйкоўцаў былі задаволены, і на наступны дзень завод аднавіў працу.

Перамога працоўных у Свідніку натхніла іншых — у Любліне і наваколлі страйк ахапіў 150 прадпрыемстваў і ўстаноў, спыніўся грамадскі транспарт, чыгунка. Да канца ліпеня ўлады былі вымушаны пайсці на саступкі, выканалі большасць патрабаванняў, і страйкі спыніліся.

У жніўні 1980-га пратэст з Любліна перакінуўся на ўзбярэжжа Балтыйскага мора, на Гданьск. І там працоўныя зрабілі яшчэ адзін крок наперад — заявілі палітычныя патрабаванні, дамагліся легалізацыі незалежнага прафсаюза “Салідарнасць”. Але гэта было пасля. А пачалося ўсё з невялікага гарадка Свіднік і смелай Зоф'і Барткевіч. Яна была ў “Салідарнасці” з восені 1980-га.

Дачка Барткевіч Эльжбета Карп успамінае, што калі ў1980-м пачаўся страйк у Гданьску, да маці адтуль прыязджалі “кансультавацца”. Яна не менш за тры разы сустракалася з лідарам гданьскіх забастоўшчыкаў Лехам Валенсам і выказвалася пра яго крытычна.

13 снежня 1981 года ў Польшчы было ўведзена вайсковае становішча. Такім чынам камуністычныя ўлады спадзяваліся задушыць палітычную апазіцыю і ўсе праявы пратэстаў. Тысячы актывістаў былі інтэрніраваны. У першы ж дзень вайсковага становішча арыштавалі Барткевіч, і яна апынулася ў



Kandydaci do Zakładowej Komisji Związkowej
NSZZ „Solidarność”

| Lp | Nazwisko i imię | Wydział | stanowisko | staż | [illegible] |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Bartkiewicz Zofia | TT | technolog | 26 | PZPR |
| 2 | Bielak Kazimierz | 360 | pirometraż | 26 | bezpartyjny |
| 3 | Blichar Stanisław | 660 | Konstruktor | 20 | bezpartyjny |





2.Uzyskano informację, że na terenie WSK powołano"komitet strajkowy" na czele którego stanęła Bartkiewiczowa, osoba bezkompromisowa, krzykliwa z którą trudno dojść do porozumienia.
Na poszczególnych wydziałach potworzyły się grupy, które uniemożliwiają kontynuowanie pracy. Wyłączają maszyny a w przypadku protestów grożą pobiciem. Na każdym z wydziałów które przerwały pracę powołano wewnętrznie ok 5 osobowe grupy które nie wpuszczają na halę obcych osób i pilnują by nie doszło do niszczenia maszyn.



# Легендарная Зося

*Працяг, пачатак на ст. 1, 4-5*

ізаляцыі. Яе вызвалілі 23 снежня 1981-га па стане здароўя. З партыяй яна развіталася, у 1982-м датэрмінова выйшла на пенсію.

На волі Зоф'я Барткевіч уключылася ў нелегальную дзейнасць, у 1982-1988 гадах распаўсюджвала ў сваім горадзе падпольны друк. За ёй сачылі аж да краху камуністычнай улады.

У 1990-м былая лідарка страйку адышла ад грамадскіх і прафсаюзных спраў. У посткамуністычнай Польшчы якраз пачаліся перамены. А яе не цікавіла кар'ера палітыка. Магчыма, былі крыўды на некаторых былых калегаў, якія прарываліся ва ўладу і маглі запісаць сабе яе заслугі. Барткевіч займалася сям'ёй, сваім здароўем (у яе была лейкемія), перажывала за лёс прадпрыемства, якое прыстасоўвалася да новых умоваў працы.



*Зоф'я Барткевіч з мужам*

Зоф'і Барткевіч не стала 14 лютага 2002 года, яна пахавана ў Любліне. Пра яе смерць паведаміла варшаўская "Газета выборча". У 2005-м Барткевіч пасмяротна ўзнагародзілі "Крыжам Свідніцкага Ліпеня" — у памяць пра падзеі 1980 года.

Людзі, якія ведалі Барткевіч, кажуць пра яе мужнасць, справядлівасць, "востры язык". *"Асоба бескапрамісная… з якой цяжка знайсці паразуменне"*, — пісалі пра Зоф'ю Барткевіч



*Зоф'я Барткевіч з дочкамі*



у адным з дакументаў польскія спецслужбы. Яна была гатовая змагацца за годнае жыццё для ўсіх. Яе энтузіязм і энергія прыцягвалі людзей да руху. У той дзень, калі Зоф'я Барткевіч падчас страйку ўзяла ініцыятыву ў свае рукі, удзячныя калегі па працы проста завалілі яе кветкамі…

●Генадзь Гурскі

Крыніцы: *https://pl.wikipedia.org/wiki/Zofia_Bartkiewicz*

*Legenda naszej Solidarności // https://www.swidnik.pl/legenda-naszej-solidarnosci/*

*Bartkiewicz Zofia. Legenda „Solidarności" // https://www.historia.swidnik.net/osoba-869*

*Zofia Bartkiewicz (1932–2002) // http://teatrnn.pl/leksykon/artykuly/zofia-bartkiewicz-19322002/*

*Zofia Bartkiewicz // https://swidnickilipiec.pl/zofia-bartkiewicz/*

*Zofia Danuta Bartkiewicz // https://katalog.bip.ipn.gov.pl/informacje/88171*

Фотаздымкі: *swidnickilipiec.pl; Waldemar Wawrzyszko, Archiwum Elżbiety Karp // teatrnn.pl*

# Вядомы кліматолаг і географ наведваў Слонімшчыну

Аляксандр Ваяйкоў (1842 — 1916) — вядомы рускі кліматолаг, метэаролаг, географ. Падчас сваіх падарожжаў ён аб'ехаў амаль увесь свет. Завітаў і на Слонімшчыну. А адбылося гэта ў 1891 годзе падчас вывучэння навукоўцам Палесся.

*"Дабраўся ён нават да Слонімскага павета, Гродзенскай губерні,* — піша Вадзім Пакшыеўскі. — *Ваяйкоў аб'ездзіў увесь трохкутнік, які ўтвараюць гарады Пінск — Слонім — Рэчыца".**

У той час ішло асушэнне палескіх балотаў, і Ваяйкоў павінен быў высветліць, ці не паўплывае гэта на клімат, у тым ліку і ў іншых рэгіёнах.

●СЁ

**Покшиевский В. Повесть о знаменитом русском географе Александре Ивановиче Воейкове. — Москва, 1955. С. 201.*



ЖЫРОВІЦКІЯ СТАРОНКІ

# У Польшчы сцяг жыровіцкай школы ўнеслі ў рэестр помнікаў

Восенню 2020 года ў польскіх СМІ з’явілася навіна, што ў Падляшскім ваяводстве ў рэестр помнікаў унесены сцяг дзяржаўнай сельскагаспадарчай і лясной школы ў Жыровічах. З такой ініцыятывай выступіў яго цяперашні ўласнік — лясная тэхнічная вучэльня ў Белавежы. І культурная каштоўнасць сцяга была прызнаная, ён знаходзіцца пад аховай дзяржавы, а захоўваецца ў белавежскім касцёле.[1] Варта распавесці гісторыю гэтага сцяга, які, на жаль, страціла Слонімшчына.

Дзяржаўная сельскагаспадарчая і лясная школа ў Жыровічах дзейнічала ў 1924-1939 гадах, займала частку манастырскага будынку. Навучаліся ў ёй хлопцы з усёй тагачаснай польскай дзяржавы. Да Другой сусветнай вайны школу скончылі 295 чалавек[2], а сярод іх былі і слонімцы[3].

Конкурс па стварэнні сцяга навучальнай установы быў аб’яўлены ў 1934 годзе, вясной 1935-га ў школе прайшла выстава прапанаваных варыянтаў. У выніку перамагла праца Ірэны Дыбоўскай з Варшавы (яна, дарэчы, ад узнагароды адмовілася). На адным баку праекта сцяга была выява Жыровіцкай іконы Божай Маці, на іншым — герб Польшчы. Вакол іх — стылізаваныя каласы пшаніцы і дубовае лісце з гронкамі жалудоў, а таксама надпісы. Вырабілі сцяг вясной 1936-га ў горадзе Пэльплін у Паморскім ваяводстве.[4]

Сцяг захоўваўся ў кабінеце дырэктара школы. Яго выкарыстоўвалі падчас



урачыстасцяў, святаў. Але ў верасні 1939-га на Слонімшчыну прыйшла Чырвоная Армія, пачала ўстанаўлівацца савецкая ўлада. Жыровіцкая школа была разрабавана і разгромлена мясцовымі жыхарамі, найперш камуністычнымі актывістамі. Тады было *“не да законаў”* — кожнага, хто ўвасабляў колішнюю польскую ўладу, маглі забіць без суда і следства. У той сітуацыі знайшоўся чалавек, які выратаваў сцяг. Казімір Келер, які працаваў дворнікам у навучальнай установе, здолеў патрапіць у кабінет і забраць сцяг, які схаваў пад пінжаком (па іншай версіі — яго яму перадаў дырэктар Станіслаў Яноўскі). Ён перахоўваў яго ў сваім доме, а пасля перадаў у слонімскі кляштар непакалянак.[5]

Выпускнікі жыровіцкай школы, якія жылі ў Польшчы, арганізаваліся неўзабаве пасля заканчэння вайны, праводзілі сустрэчы. Яны не змаглі знайсці Келера — ён памёр падчас вайны. Таму лёс сцяга доўгі час заставаўся невядомы.

Аднак у красавіку 1989-га на Слонімшчыну прыехалі некалькі былых навучэнцаў школы разам за сваімі сем’ямі. З імі была і Аліна Яноўская-Заблоцкая, дачка апошняга дырэктара. У размове з ксяндзом Вітольдам Жыльветра яны даведаліся, што сцяг захаваўся — ён ляжаў у скрынцы з царкоўнымі рызамі і знаходзіўся ў добрым стане. У савецкія часы вернікі-каталікі, доўгі час не маючы ксяндза, захавалі і свой касцёл у цэнтры горада, і сцяг навучальнай установы. Можна ўявіць, наколькі шчаслівыя былі госці з Польшчы. Ксёндз Жыльветра гатовы быў ім аддаць сцяг, але, каб яго не страціць, было вырашана атрымаць дазвол на легальны вываз каштоўнай памяткі.

Фармальнасці залагоджваліся два гады. Справай займаліся і касцельныя ўлады, і польскія дыпламаты. У выніку савецкія ўлады далі дазвол на вываз сцяга, які для іх не меў ніякай каштоўнасці, быў памяткай пра чужую навучальную ўстанову чужой дзяржавы, ды яшчэ з яе гербам, з выявай іконы. Меркаваннем слонімцаў, відаць, ніхто не цікавіўся. А чаму ж было не перадаць сцяг у мясцовы краязнаўчы музей?

У Польшчу сцяг жыровіцкай дзяржаўнай сельскагаспадарчай і лясной школы прывезлі 26 сакавіка 1991 года. Яго перадалі ў Белавежу лясной тэхнічнай вучэльні, якая перахоўвае традыцыі і жыровіцкай школы, вакол яе гуртаваліся былыя навучэнцы. У Нацыянальным музеі ў Варшаве была праведзена рэстаўрацыя. Абноўлены сцяг







асвяцілі ў Белавежы 1 верасня 1991 года. Ва ўрачыстасці ўдзельнічалі 25 былых “жыравякаў” і 29 членаў іх сем’яў. Ад таго часу сцяг знаходзіцца ў капліцы белавежскага касцёла, якая называецца Санктуарый Маці Божай Жыровіцкай.

●Генадзь Гурскі

*[1] Borodiuk P. Sztandar w rejestrze zabytków // http://wuoz.bialystok.pl/sztandar-w-rejestrze-zabytkow/*

*[2] Państwowa Średnia Szkoła Rolniczo-Leśna w Żyrowicach // https://pl.wikipedia.org/*

*[3] Барыс Данілюк у сваіх успамінах згадвае навучэнцаў Івана і Паўлюка Янушэвічаў з Сурынкі. Гл.: Данілюк Б. Азіраючыся расой выетымі вачыма: Успаміны. — Мінск, 2012. С. 115.*

*[4] Historia sztandaru Państwowej Średniej Szkoły Rolniczo – Leśnej w Żyrowicach k/Słonima // http://www.tl.bialowieza.pl/artykul/historia-sztandaru-panstwowej-sredniej-szkoly-rolniczo-lesnej-w-zyrowicach-k-slonima*

*[5] Historia sztandaru…; . Sztandar w rejestrze zabytków…*

Фота: http://wuoz.bialystok.pl

# Уцёкі за мяжу восенню 1939-га

Летась з'явіўся польскі серыял "Людзі і Богі". Яго героі — удзельнікі спецаддзела польскага Супраціўлення, які падчас вайны займаўся знішчэннем нацыстаў і здраднікаў у Варшаве. Высвятляецца, што сярод гэтых людзей быў і вайсковец, які ў 1930-я гады служыў у Слоніме.

У "СК" ужо былі публікацыі, прысвечаныя ўцёкам слонімцаў за мяжу з СССР у 1940 годзе.* Яны рашаліся на такі небяспечны крок перад пагрозай арышту, дэпартацыі і г. д. Некалькі сем'яў (Браўны, Кішкі, Равінскія, Урліхі) здолелі перабрацца ў акупаваную немцамі Польшчу. У архівах можа быць дакладная статыстыка па колькасці ўцекачоў.

У зборах Архіву вуснай гісторыі Музея Варшаўскага паўстання знайшлася расшыфроўка гутаркі з Крысцінай Дамбкоўскай ад сакавіка 2017-га.** Яна нарадзілася ў Слоніме 12 ліпеня 1937 года ў сям'і польскага вайскоўца. Інтэрв'ю вялізнае, але аўтар-дзівак чамусьці не пацікавіўся дзявочым прозвішчам былой сланімчанкі, імёнамі яе бацькі і маці! Давялося зрабіць запыт у варшаўскі музей, але адзінае, што яны паведамілі, гэта дзявочае прозвішча Дамбкоўскай — Кужач. Імя бацькі нам пакуль невядомае.

Дамбкоўская думае, што яе бацька быў падафіцэрам (унтэр-афіцэрам) вайсковай жандармерыі. На пачатку Другой сусветнай вайны ён ваяваў з немцамі каля Кракава. Прабіцца на ўсход да сям'і не атрымалася — немцы перарэзалі шлях, і Кужач апынуўся ў нямецкім палоне. *"Дзякуючы гэтаму ён не трапіў у Катынь"*, — слушна заўважае дачка.

Неўзабаве з-за калючага



дроту вайсковец уцёк, дабраўся да Варшавы, дзе жылі яго бацькі. Калі яны даведаліся, што ён збіраецца ў нелегальную вандроўку ў Слонім за сям'ёй, то не хацелі адпускаць і не дазволілі ўзяць ровар. Тады ён уцёк раніцай і прыхапіў з сабой той ровар.

Крысціна Дамбкоўская пра тыя падзеі ведае хіба са слоў маці, таму яе аповед даволі блытаны. У канцы кастрычніка — у пачатку лістапада 1939-га бацька знайшоў праваднікa, які дапамог перайсці мяжу. Дамовіўся з ім, што вернецца праз некалькі дзён з сям'ёй. Кужач дабраўся да Слоніма і ўначы пастукаў у акно дома, у якім жыла жонка з дачкой. Маці Крысціны спалохалася — па начах у горадзе праходзілі арышты. Бацька хутка пераказаў



*Крысціна Дамбкоўская*

свой план уцёкаў, сказаў, што яны сустрэнуцца ўвечары на чыгуначным вакзале, а сам сышоў. Маці цэлы дзень прадавала яўрэям розныя рэчы, у тым ліку і свае сукенкі. Атрымала за ўсё невялікія грошы.

Дачка адзначае, што бацька быў падрыхтаваны чалавек, дзейнічаў вельмі асцярожна. Пры гэтым хадзіў па начным Слоніме, які патрулявалі чырвонаармейцы. Маці Крысціны запанікавала ў цягніку, бо не бачыла ў вагоне мужа, ледзь не выйшла. А ён ехаў на прыступках вагона. Незразумела, куды яны прыехалі па чыгунцы са Слоніма. Па версіі Крысціны Дамбкоўскай, яны ці не з нашага горада адразу паехалі ў Варшаву, і іх хавалі польскія чыгуначнікі. Насамрэч, яны маглі дабрацца да нейкага горада каля мяжы, а далей быў нелегальны пераход у акупаваную немцамі Польшчу. Ужо там давялося дабірацца па чыгунцы да Варшавы, і чыгуначнікі маглі хаваць уцекачоў са Слоніма ад нямецкіх патрулёў.

Бацька сланімчанкі падчас нямецкай акупацыі ўдзельнічаў у польскім Супраціўленні, быў у аддзеле "ліквідатараў".



Акупанты яго арыштавалі ў красавіку 1943 года. Выкупіць Кужача сваякам не ўдалося. Ён прайшоў нацысцкія канцлагеры ў Асвенцыме і Маўтхаўзэне. Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны апынуўся ў Мюнхене, дзе доўга лячыўся. Вярнуўся ў Польшчу толькі ў верасні 1946-га.

Сям'я шчасліва перажыла Варшаўскае паўстанне, хаця небяспекі і пакутаў хапала. Яны сустрэліся. Але былога падпольшчыка арыштавала польская служба бяспекі, былі доўгія допыты і катаванні. Вызвалілі яго ў 1956-м.

●Генадзь Гурскі

*Гурскі Г. Уцёкі групы слонімцаў з СССР зімой 1940 года // Слонімскі край, 2018, № 2(24). Люты. С. 3; Гурскі Г. Зімой 1940 года са Слоніма за мяжу ўцякла сям'я Браўнаў // Слонімскі край, 2018, № 6(28). Чэрвень. С. 12; Гурскі Г. Зноў пра ўцёкі слонімцаў з СССР // Слонімскі край, 2019, № 3(37). Сакавік. С. 11.*

**Krystyna Dąbkowska // Archiwum Historii Mówionej. Muzeum Powstania Warszawskiego; https://www.1944.pl/archiwum-historii-mowionej/krystyna-dabkowska,3568.html*

# Дакумент з 1920 года



MAGISTRAT
miasta
SŁONIMA
d. 24 czerwca 1920 r.
№ 4979

Zaświadczenie - tymczasowe

Magistrat m. Słonima niniejszem zaświadcza, iż Jankiel Zelwiański, urodzony 12 sierpnia 1896 r., jest stałym mieszkańcem m. Słonima zapisany do księgi ludności za № 58/...

Niniejsze wydano celem ... świadectwa, iż legitymacja powiniennego Zelwiańskiego wydana przez Policję Państwową w Słonimie w dn. 5 lipca 1920 r. za № 717 złożona do Wydziału Palestyńskiego w Warszawie celem otrzymania paszportu zagranicznego.

Opłata stemplowa wniesiona.

Ważne do dn. 24 sierpnia 1921 r.

Burmistrz
Sekretarz

У пачатку 2021 года на Ebay з'явіўся дакумент, выдадзены 24 чэрвеня 1920-га магістратам горада Слоніма мясцоваму жыхару Янкелю Зельвянскаму. Гэта было часовае пасведчанне для атрымання ў Варшаве замежнага пашпарту — 23-гадовы Зельвянскі збіраўся з'ехаць у Палестыну.




Ішла польска-савецкая вайна. Фронт быў далёка на ўсходзе, але неўзабаве хутка наблізіўся да Слоніма. У жніўні-верасні 1920 года ў нашым горадзе зноў мянялася ўлада, ішлі баі. Планы Зельвянскага з-за гэтага не былі хутка рэалізаваныя. Ён афармляў паперы яшчэ і ў 1921-м.

Дакументаў з таго часу захавалася не так шмат, таму пасведчанне Янкеля Зельвянскага вельмі каштоўнае. На ім бачым пячатку магістрата, выявы на якой нагадваюць старажытны герб Навагрудскага ваяводства — чорны анёл і Пагоня.

●ГГ

# Апісанне слонімскай фабрыкі 1860 года



У чэрвені 1860 года газета *“Виленскій вѣстник” (“Kuryer Wileński”)* анансавала продаж будынкаў суконнай фабрыкі на Замосці ў Слоніме.[1] У гэтай абвестцы змясцілі падрабязнае апісанне прадпрыемства:

“У Гродзенскай губерні ў павятовым горадзе Слонім ёсць каменная суконная фабрыка, якая належыць ведамству дзяржаўнай маёмасці, у склад якой уваходзяць наступныя будынкі: а) каменны трохпавярховы дом, які складаецца з двух аддзяленняў і сярэдняй часткі, што служыць уласна фабрычнай прамысловасці; у ім на першым паверсе змяшчаюцца расчэсвальныя машыны, на другім — ручныя і механічныя прыстасаванні, а на трэцім — ткацкія станкі; б) каменны двухпавярховы будынак, які называецца сушыльняй, і які на першым паверсе займае зала для сушкі шэрсці, а на другім — для сушкі сукна; в) каменны аднапавярховы дом, які выкарыстоўваецца для фарбавання сукна і два пакоі для карыстання фарбавальнікам; г) такі ж двухпавярховы дом, у якім ёсць кватэра для дырэктара завода і іншай фабрычнай прыслугі; д) драўляны дом для склада розных прылад працы.

Уся фабрыка з рабочым шлюзам размяшчаецца пры сплаўнай рацэ Ісе, якая тут жа ўпадае ў суднаходную раку Шчару; на гэтым прадпрыемстве ёсць машыны, інструменты і ўсе іншыя прылады працы, якімі яно цяпер дзейнічае. Да гэтай фабрыкі належыць яшчэ вадзяны мукамольны млын, з крупчаткай[2], які дзейнічае з фабрыкай адным накірункам вады; апошні з гэтых варункаў, дзякуючы зручнаму размяшчэнню ў павятовым горадзе, дае ўладальніку вялікія зручнасці для здабыцця даходу; абедзве гэтыя ўстановы разам са сваімі будынкамі, машынамі і інструментамі, і ўсімі іншымі прыладамі працы, а таксама сядзібнай зямлёй, прадаюцца ў вотчыннае валоданне[3] з публічных таргоў з сумы 24 т[ысячы] р[ублёў]. Дата правядзення гэтых таргоў прызначана на 18 жніўня…”.

Пра якую суконную фабрыку тут гаворка? У 1824 годзе ў Слоніме было пабудавана прадпрыемства графа Мікалая Навасільцава. На ім налічвалася 28 ткацкіх станкоў, якія абслугоўвалі 162 вольнанаёмных рабочых. Прадукцыя фабрыкі была высокай якасці, і ў 1828-м яе рэкамендавалі да ўдзелу ў прамысловай выставе ў Санкт-Пецярбургу.[4] Але Навасільцаў памёр у 1838 годзе. Ці існавала яго прадпрыемства яшчэ 22 гады? Як піша Васіль Герасімчык, гэтая фабрыка часткова займала ўзвышша недалёка ад цяперашняй плошчы Сапегі[5], а не каля ўпадзення Ісы ў Шчару.

У Слоніме з 1826-га існавала суконная фабрыка Абрама Каменнамосцкага (у яго таксама былі папяровая фабрыка і медны завод), якая выпускала сукно і шарсцяныя коўдры. На прадпрыемстве працавалі 35 рабочых.[5] А найбольш інфармацыі на сённяшні дзень маем пра суконную фабрыку ў Альбярціне[7], які ў той час у склад Слоніма не ўваходзіў.

Падрыхтаваў ●Сяргей Ёрш

*[1] Виленскій вѣстник (“Kuryer Wileński”), 1860, № 50, 28 чэрвеня.*

*[2] Крупчатка — пшанічная мука лепшага памолу і высокай якасці.*

*[3] Спадчыннае зямельнае валоданне.*

*[4] Караткевіч В., Кулагін А. Помнікі Слоніма. — Мінск, 1983. С. 18.*

*[5] Герасімчык В. Адкуль пачаўся Слонім // Газета Слонімская, 2015, № 15, 8 красавіка.*

*[6] Помнікі Слоніма. С. 18; Слонімшчына вачыма навукоўцаў і краязнаўцаў. — Слонім, 2002. С. 163.*

*[7] Памяць: гісторыка-дакументальная хроніка Слонімскага раёна. — Мінск, 2004. С. 133-134.*

# Зуб маманта знайшлі каля Рахавічаў



*Экспазіцыя Слонімскага раённага краязнаўчага музея імя Стаброўскага / http://slonim.museum.by*

У верасні 1935-га ў польскамоўнай прэсе былі некалькі публікацый пра археалагічныя знаходкі на Слонімшчыне каля вёскі Рахавічы. 1 верасня "Наваградскі кур'ер" паведаміў, што *"над рэчкай Була каля Рахавічаў"* знайшлі карэнныя зубы і некалькі костак маманта. Нібыта рыхтаваліся раскопкі, каб адшукаць цэлы касцяк.[1]

У публікацыі, якая з'явілася праз два тыдні (відаць, больш дакладнай) пісалі ўжо пра *"адзін з выдатных узораў зубоў маманта"*, які знайшлі *"пры рэгуляцыі ракі Булы"*. Зуб набыў слонімскі музей. У той жа зацемцы паведамлялася пра знойдзеную падчас меліярацыі ў торфе каля Булы 12-сантыметровую каменную сякеркуздзіркай. Удакладнялася, што сякерка *"з чорнага каменя, прыгожа выраблена і гладка адшліфавана"*. Яе таксама набыў музей.[2]

Трэцяя публікацыя з'явілася 16 верасня 1935 года. У ёй паўтаралася папярэдняя інфармацыя, што слонімскі музей купіў зуб маманта, *"выдатны экспанат"*, знойдзены каля Булы. Адзначалася яго

*Працяг на ст. 14*

KURJER NOWOGRODZKI

## Wykopaliska nad Bułłą

SŁONIM. Dowiadujemy się, że jeden z pięknych okazów zębów mamuta znaleziono przy regulacji rzeki Bułly, został nabyty przez muzeum polskiego T-wa Krajoznawczego w Słonimie.

Również nad rzeką Bułłą w czasie jej melioracji znaleziono w pokładach torfu toporek kamienny o 12 cm. długości z otworem. Toporek jest z czarnego kamienia, ładnie wyrobiony i gładko oszlifowany. Toporek nabyło T-wo Krajoznawcze w Słonimie do muzeum.

—»«o»«—

# Зуб маманта знайшлі каля Рахавічаў



*Зуб маманта, знодзены каля Сурынкі / http://slonim.museum.by*

*“вялікая вартасць музейная і навуковая”*.[3]

У музейным апісанні *“цікавых экспанатаў”* згадваюцца зубы маманта, знодзеныя на Слонімшчыне, але ў пераліку мясцовасцяў няма Рахавічаў. Затое ёсць суседняя Сурынка.[4] Краязнаўца і археолаг Васіль Супрун не згадваў пра знаходкі зубоў маманта каля Булы, пісаў толькі, што *“ў поплаве Шчары знаходзілі і зубы маманта”*.[5]

●Сяргей Ёрш


*[1] Kurjer Nowogródzki, 1935, № 239, 1 верасня.*

*[2] Kurjer Nowogródzki, 1935, № 253, 15 верасня.*

*[3] Kurjer Nowogródzki, 1935, № 254, 16 верасня.*

*[4] Интересные экспонаты музея // 25 верасня 2020 г.; vk.com*

*[5] Супрун В. Дзеі над Шчарай: (З гісторыі зямлі Слонімскай). — Слонім, 2000. С. 29-30.*




— **Dalsze wieści o wykopalisku.** — Dowiadujemy się, iż w miejscu odnalezienia zębów trzonowych i szeregu kości mamuta nad rzeczką Bullą kolo Rachowicz gm. Czemerskiej pow. słonimskiego, poczyniono wszelkie zabezpieczenia przed ew. uszkodzeniem wykopaliska.

Powiadomione władze konserwatorskie zarządzą niebawem badania i dalsze kopanie ziemi w celu odnalezienia całego szkieletu mamuta.

— **Ząb mamuta w muzeum Słonimskiem.** Dowiadujemy się, że jeden z przepięknych okazów jakim jest ząb mamuta znaleziony przy regulacji rzeki Bully został nabyty przez muzeum Polskiego Towarzystwa Krajoznawczego w Słonimie. Jest to doskonale zachowany eksponat pochodzący od zwierzęcia z czasów przedhistorycznych i jako taki posiada wielką wartość muzealną i naukową.



# Пеліканы

Слонімская зямля дала нямала таленавітых лекараў. Адзін з іх — Венцаслаў (Вацлаў) Пелікан (1790 — 1873), знакаміты хірург, рэктар Віленскага ўніверсітэта. Летась на 11 верасня прыпадалі 230-я ўгодкі з дня яго нараджэння ў Слоніме.

Пелікан быў лаяльны да рускіх уладаў, пра адраджэнне ВКЛ ці Рэчы Паспалітай, відаць, не марыў. Але не толькі гэта паспрыяла яго выдатнай кар’еры. Ён быў вядучым спецыялістам у сваёй галіне медыцыны, да таго ж меў арганізатарскія здольнасці. Венцаслаў Пелікан працаваў дырэктарам медыцынскага дэпартамента ваеннага міністэрства Расійскай імперыі, кіраваў імператарскай Санкт-Пецярбургскай медыкахірургічнай акадэміяй, Дзяржаўным медыцынскім саветам, атрымаў найвышэйшы тытул чыноўніка — сапраўднага таемнага дарадцы. Слонімец быў і тэарэтыкам, і практыкам: чытаў лекцыі, пісаў навучальныя дапаможнікі, ствараў новыя хірургічныя інструменты, рабіў складаныя для таго часу аперацыі.

Ён памёр у сваім маёнтку на Браслаўшчыне, там і быў пахаваны.

У сына Венцаслава Пелікана Яўгена Пелікана (1824 — 1884) таксама была выдатная кар’ера ў Расійскай імперыі. Ён лічыцца “бацькам рускай таксікалогіі”. Доктар медыцыны, прафесар Імператарскай медыка-хірургічнай акадэміі, дырэктар медыцынскага дэпартамента МУС, таемны дарадца, рэдактар і заснавальнік медыцынскіх часопісаў. Яўген Пелікан быў вялікім бібліяфілам. Яго каштоўная бібліятэка, у якой былі кнігі бацькі і дзеда, апынулася ў зборах Расійскай ваенна-медыцынскай акадэміі.

Ён пахаваны на Навадзевічых могілках у Санкт-Пецярбургу.

●Арцём Салейка



*Венцаслаў Пелікан*



*Яўген Пелікан*

# Да 480-годдзя першай згадкі вёскі Якімавічы




У пошуках інфармацыі ў інтэрнэце пра вёску Якімавічы неяк сутыкнуўся з сайтам пра адну вёску нашай вобласці — каларытнай вэб-старонкай, якую стварыў яе ўраджэнец, малады яшчэ чалавек. Мне вельмі спадабалася і ўразіла яго імкненне вывучаць, захоўваць і прапагандаваць сваю вёску і яе гісторыю. Я спісаўся з ім, параіўся, абмяняўся інфармацыяй наконт таго, дзе шукаць першыя згадкі пра населены пункт.

Увесну 2017 года я даслаў у Інстытут гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі запыт пра першую згадку вёскі Якімавічы Слонімскага раёна (акрамя нашых Якімавічаў у Беларусі існуюць яшчэ тры з такой жа назвай — ў Баранавіцкім раёне Брэсцкай вобласці, у Калінкавіцкім раёне Гомельскай вобласці і ў Клімавіцкім раёне Магілёўскай вобласці). Праз нейкі час атрымаў адказ. У ім паведамлялася, што ў выніку праведзенага гістарычнага даследавання устаноўлена: *“сяло Якімавічы (сучаснага Слонімскага раёна) ўпершыню згадваецца ў матэрыялах судовай справы 1541 г., якая разглядалася Панамі Радай Вялікага Княства Літоўскага, а менавіта ў судовым дэкрэце 8 чэрвеня 1541 г. па справе пана Станіслава Збожнага Неміровіча з панам Янам Мікалаевічам Ільінічам аб маёнтку Міромін (Мурамін)**”. Згодна з гэтымі матэрыяламі Якімавічы з’яўляліся сялом, якое уваходзіла ў Нагуеўскі дзясятак маёнтка Шылавічы.**

Аранейяатрымаўадколішняй старшыні Вялікашылавіцкага сельвыканкама Алы Васільеўны Пінчук у падарунак, як чалавеку ўлюблёнаму ў вёску Якімавічы, аздоблены ў рамку артыкул *“Путевые заметки по дороге в Якимовичи”* (Слонімскі веснік, 2016, №104-105, 7 верасня), дзе паведамлялася: *“Впервые в письменных источниках эта деревня упоминается в 1510 г., как село, принадлежащее Станиславу Збожному Немире”*. Пад артыкулам падпісаныя Марына і Ігар Пракоф’евы.*** Перагледзеўшы наяўную інфармацыю, я мусіў напісаць чарговы ліст у Інстытут гісторыі НАН, прыклаўшы копію згаданага артыкула. У адказе навукоўцы паведамілі, што *“гэтыя сцвярджэнні (пра першыя згадкі Якімавічаў у 1510 г.) з’яўляюцца памылковымі і не падцвярджаюцца існуючымі пісьмовымі крыніцамі”*. Яны падкрэслілі, што 1510 год, згаданы адносна Якімавічаў у “Вялікім гістарычным атласе Беларусі” (Т. 1. Мінск, 2009. С. 244), не падмацаваны спасылкай на крыніцу інфармацыі.




Пасля гэтай перапіскі і з’явілася ідэя выдання календара “Якімавічы”, які ўпершыню выйшаў ў свет у 2020 годзе накладам 10 асобнікаў (адзін асобнік трапіў нават у Маскву).

Мяркую, што вёска Якімавічы ў сваім жыцці “перагарнула” 550-годдзе. А можа падбіраецца і да 600 гадовай мяжы!? У гістарыяграфічнай практыцы лічыцца днём ці годам заснавання населенага пункта дата яго першай згадкі ў пісьмовых крыніцах, таму гэты год для вёскі атрымліваецца юбілейны. З нагоды 480-годдзя першай згадкі нашай вёскі Якімавічы, у 2021 годзе я вырашыў надрукаваць каляндар накладам 20 асобнікаў і

распаўсюдзіць сярод жыхароў вёскі, ураджэнцаў, нашчадкаў і людзей, якія прымалі удзел ў лёсе вёскі.

Сёння веска Якімавічы знаходзіцца ў складзе Дзеравянчыцкага сельсавета. У ёй жыве 20 чалавек у 11 хатах (па афіцыйных даных — 16 жыхароў і 13 домаўладанняў), з вясны прыязджаюць яшчэ 25 жыхароў ("шпакі", як я іх называю) і "ажываюць" яшчэ 16 хатаў (агулам у вёсцы 40 хатаў). Вёска абслугоўваецца двойчы на тыдзень аўтакрамай, раз на тыдзень зімой і тры разы летам прыязджае аўтобус, устаноўлены 22 стацыянарныя тэлефоны, два разы на месяц прыязджае перасоўнае аддзяленне сувязі для аплаты камунальных паслуг і выплаты пенсій, раз у тыдзень прыязджае смеццявоз — вывозіць смецце.

Патрошку людзі купляюць хаты і ў нашай вёсцы, і хочацца верыць, што яна будзе ажываць! Пакуль жывем мы — будуць жыць і нашыя Якімавічы!

●Сяргей Тадра

**Цяперашняя вёска Міронім у Івацэвіцкім раёне Брэсцкай вобласці (раней была ў складзе Слонімскага павета).*

***Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389, воп. 1 // Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. КМФ-18, воп. 1, спр. 27, арк. 63-65 адв.*

****Гэта ж сцвярджаецца і ў кнізе "Памяць: гіст.-дакум. хроніка Слонімскага раёна" (Мінск, 2004. С. 744).*




# Як у Слоніме салдат адвучвалі купляць кнігі ў гандляроў



З ліпеня 1892 года да царквы 117-га пяхотнага Яраслаўскага палка, які дыслакаваўся ў Слоніме, быў прызначаны пратаерэй Іаан Сакалоў (1861 — 1930) з Расіі. Неўзабаве ён стварыў царкоўную бібліятэку, пасля — бібліятэку пры лазарэце. Камандзір палка на ўсё гэта даваў дазвол. Нарэшце святар вырашыў заняцца распаўсюдам рэлігійнай літаратуры сярод вайскоўцаў.

25 траўня 1893 года Іаан Сакалоў пісаў: *"Неаднаразова даводзілася мне назіраць, як ніжэйшыя чыны нашага палка… спыняліся каля рынкавага перасоўнага гандляра кнігамі, з немалой цікавасцю пераглядаюць і купляюць розныя кніжкі, іконы, карціны і крыжыкі. Каму даводзілася бачыць падобных гандляроў кнігамі, якія сустракаюцца амаль у кожным горадзе, той напэўна мае разуменне аб прадметах іх гандлю, якія адзначаюцца нізкапробнымі якасцямі ва ўсіх адносінах і нярэдка абражаючых рэлігійныя пачуццё і праўду".**

Святар палічыў такі распаўсюд "непажаданым" і вырашыў адкрыць пры палкавой царкоўнай бібліятэцы ў якасці эксперыменту гандаль кнігамі *"рэлігійна-маральнага зместу, іконак і крыжыкаў магчыма лепшай вартасці і невысокай цаны".* Камандзір палка і гэта дазволіў.

Сам пратаерэй Сакалоў не гандляваў, даверыў справу нейкаму салдату. Гандаль у асноўным ішоў у казармах *"у дні рэлігійна-маральных размоваў з ніжэйшымі чынамі"*. За тры месяцы ўдалося прадаць больш за 800 кніжак, больш за дзве сотні лісткоў, 128 абразкоў, чатыры дзясяткі крыжыкаў…

Актыўнага праваслаўнага святара заўважыла начальства, і ў кастрычніку 1893-га яго перавялі ў Волхаў у Расію.

●Генадзь Гурскі

**Сунгуров Г. Военный пастырь Соколов: (опыт исследования истории военного духовенства России): историко-документальная повесть. — Санкт-Петербург, 2016. С. 30.*

# Рэвалюцыйны год

## *Слонімшчына на старонках газеты “Гродненскія губернскія вѣдомости” ў 1905-м*



*Працяг, пачатак у № 10-12(56-58) за 2020 г., № 1-2(60-61) за 2021 г.*

“1905 года сакавіка 27 дня. Мы… вучні Парэцкай народнай вучэльні, Слонімскага павета… на прапанову нашага настаўніка Міхаіла Андрэевіча Рамановіча… выказалі жаданне скласці з сябе таварыства аховы жывёл і птушак, для чаго ахвотна ўступаем у члены гэтага таварыства, абраўшы старшынём яго нашага настаўніка Міхаіла Рамановіча. Уступіўшы ў члены таварыства, мы далі настаўніку і адзін аднаму шчырае слова ніколі не мучыць жывёл, не біць іх, не накладаць на коней і рабочую скаціну непасільныя працы, абыходзіцца з хатнімі жывёламі-нашымі памочнікамі ў гаспадарчай працы — ласкава, не знішчаць гнёздаў дзікіх і хатніх птушак, паколькі яны стварэнні Божыя і створаны Богам для жыцця і карысці чалавека, і ўгаворваць дзяцей, сваіх знаёмых і родных не ўчыняць шкоды і пакутаў ні хатнім жывёлам і птушкам, ні дзікім, за выключэннем ваўкоў, ворагаў чалавека і жывёлаў; не псаваць ні пладовых дрэваў, ні лясных для сваёй забавы, г. зн. не здымаць з бярозы берасты…, не рабіць з маладых сасновых галінак дудак, не ламаць у дзяржаўных і прыватных лясах без скрайняй неабходнасці маладых дрэваў, паколькі лясы даюць людзям матэрыял для пабудовы хатаў і паліва, ачышчаюць паветра, даюць асвяжаючую прахалоду, з’яўляюцца вадасховішчамі для нашых рэк, прытулкам звяроў і птушак.

Усведамляючы немалую карысць дрэў, абавязуемся саджаць іх каля сваіх дамоў, халодных пабудоў і ўздоўж вуліц і штогод, на патрабаванне нашага старшыні, даваць яму справаздачу пра сваю дзейнасць і збірацца ў вучэльню для нарадаў аб выніках нашага таварыства, для чаго ў бліжэйшыя памочнікі нашага старшыні, для назірання за выкананнем дадзенага намі абяцання, выбіраем з сваіх таварышаў наступных вучняў: вёс. Задвор’е Мікалая Барташа, вёс. Васілевічы Васіля Сасноўскага, вёс. Нарастовічы Мікалая Сакалоўскага, в. Ганькі Васіля Грэцкага, в. Навасёлкі Іллю Сідорыка, вёскі Парэчча Сямёна Талерчыка, якія будуць называцца “памочнікамі старшыні”, у чым і падпісваемся”.

Настаўнік Рамановіч удакладніў, што падпісаліся больш за 60 вучняў.

*Гродненскія губернскія вѣдомости. Часть неоффиціальная, 1905, № 22, 10 чэрвеня. С. 13-14.*

У Слонімскай гарадской 3-хкласнай вучэльні свята пасадкі дрэў было арганізавана 6 кастрычніка [1904-га]. Месцам пасадкі былі абраныя мясцовыя гарадскія могілкі. Пасадкай кіраваў запрошаны садоўнік. Малебен здзяйсняў выкладчык Закона Божага вучэльні, пратаерэй а. Гуляніцкі разам са святаром а. Травіным з дыяканам Віхравым…На ўрачыстасці прысутнічалі: інспектар народных вучэльняў сп. Паўлінскі, гарадскі кіраўнік сп. Палтарацкі, камандзір 117 пях[отнага] палка Максімаў і сп-ня Смірнова, якая падарыла саджанцы: 400 штук клёна, 200 штук жоўтай акацыі, 200 штук дзікай ружы, 100 штук каспійскай вярбы і 20 штук срэбранай таполі… Сярод вучняў гарадской вучэльні са сваімі настаўнікамі на чале з настаўнікам-інспектарам прымалі ўдзел у пасадцы і вучні мясцовых прыходскіх вучэльняў са сваімі бацькамі.

27 верасня [1904-га] вучні Слонімскай пачатковай 2-хкласнай яўрэйскай вучэльні



саджалі дрэвы ў двары Талмуд-торы, што з’яўляецца працягам мінулагодняй [пасадкі]. Было пасаджана 4 яблыні, 7 грушаў, 2 слівы, 1 ліпа, 9 кустоў маліны і 9 кустоў парэчкі. Дзякуючы ўдаламу выбару месца і саджанцаў, правільнай пасадцы і догляду, усе дрэвы мінулагодняй пасадкі прыжыліся.

*Гродненскія губернскія вѣдомости. Часть неоффиціальная, 1905, № 23, 17 чэрвеня. С. 9.*

У тым жа годзе ў выданні быў агляд пасадкі дрэў у Гродзенскай губерні за некалькі папярэдніх гадоў. У ім згадваецца *“адна з сімпатычных з’яваў гісторыі пасадкі дрэваў у губерні”*, як вучні Слонімскага яўрэйскага пачатковага вучылішча садзілі дрэвы 7-8 кастрычніка 1903 года ў двары Слонімскай талмуд-торы. Адно дрэва пасадзілі ў памяць 50-годдзя вучэльні, якое адзначалася ў той дзень. Да яго *“прывязалі дашчэчку з адпаведным надпісам у памяць падзеі”*. Кіраваў усім садоўнік, саджанцы прывезлі з гадавальніка нейкай прыватнай асобы. Дзеці саджалі дрэвы разам са сваімі бацькамі.

*Гродненскія губернскія вѣдомости. Часть неоффиціальная, 1905, № 2, 7 студзеня.*

Слонімская гарадская дума на чарговым пасяджэнні, якое адбылося 8 сакавіка гэтага года, разгледзеўшы хадайніцтва хатняга настаўніка Емельяна Сівец аб адкрыцці ў горадзе Слоніме прыватнай мужчынскай вучэльні, што раўняецца 4-м класам гімназіі, цалкам на гарадскія сродкі ці аб прыняцці горадам удзелу ва ўтрыманні такога, пастанавіла: з-за *стеснённого положения* гарадской касы, вышэйпрыведзенае хадайніцтва Сіўца пакінуць без наступстваў.

*Гродненскія губернскія вѣдомости. Часть неоффиціальная, 1905, № 12, 18 сакавіка. С. 5.*


ГРОДНЕНСКІЯ
ГУБЕРНСКІЯ ВѢДОМОСТИ.
ЧАСТЬ НЕОФФИЦІАЛЬНАЯ
ВЫХОДИТЪ ЕЖЕНЕДѢЛЬНО.

Нам пішуць з вёс[кі] Пятралевічы Чамярской воласці Слонімскага павета, што мясцовая народная вучэльня, пабудаваная ў канцы вёскі, не забяспечана вадой. Бліжэйшы калодзеж знаходзіцца ад школы на чвэрць вярсты, што вельмі абцяжарвае дастаўку ў школу вады, асабліва зімой. Ад гэтага церпяць і настаўнік[,] і вучні: паколькі ў вясковай школе дзеці звычайна абедаюць усухамятку — чорным хлебам, то патрэба ў вадзе ў іх бывае заўсёды значная, а яе ж заўсёды не хапае. Нязручна гэта таксама і ў пажарных адносінах, паколькі калі б здарылася хаця б маленькая неасцярожнасць з агнём, школа можа згарэць толькі таму, што ў дадзены момант не акажацца пад рукой вады ці яе будзе недастаткова.

Мясцовым уладам варта было б звярнуць на гэта ўвагу.

*Гродненскія губернскія вѣдомости. Часть неоффиціальная, 1905, № 36, 16 верасня. С. 11.*

# Пра слонімскі музей

Слонімскі раённы краязнаўчы музей імя Стаброўскага слаба абнаўляе свой сайт, затое публікацыі часта з'яўляюцца на яго старонцы ў *ВК*. Акрамя розных абвестак пра выставы, экскурсіі, ёсць згадкі пра нашых землякоў. Сярод апошніх — пост пра 275-годдзе з дня нараджэння Тадэвуша Касцюшкі, якое прыпадала на 4 лютага. Была змешчана падборка ілюстрацый з яго партрэтамі. Кіраўніка нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 года называюць героем.

Там жа пачалі змяшчаць рэдкія фотаздымкі са збораў музея. У пачатку лютага была падборка фота колішняга Народнага дома (Раённага дома культуры), на месцы якога ўзведзены будынак тэатра. Была далучана і цікавая гістарычная даведка. Яшчэ раней былі змешчаны здымкі радзільнага дома ў Слоніме ў 1946-м, кінатэатра "Мір" у 1966-м, сінагогі, Івана Міско (Анатоля Іверса), генерала Яўгена Леашэні.



*Тадэвуш Касцюшка*

5 лютага сёлета музей распачаў віртуальны відэапраект "Легенды і паданні Слонімшчыны". Першы выпуск прысвечаны Расколатаму камню. Легенды пераказвае старшы навуковы супрацоўнік Наталля Аляхновіч. Ініцыятыва цікавая і патрэбная. Шкада толькі, што слонімцы яе не заўважылі. Нават сорамна назваць колькасць праглядаў гэтага відэа, як і колькасць падпісчыкаў YouTube-канала слонімскага музея. І гэта абавязкова трэба выправіць.

Калі не падтрымліваць такія добрыя справы, у людзей проста можа знікнуць імпэт. Так нярэдка і здараецца. Будзем спадзявацца, што ў гэтым выпадку слонімцы зацікавяцца працай супрацоўнікаў музея.

●Генадзь Гурскі

ХРОНІКА

# Новая паштоўка




Краязнаўца і паэт Сяргей Чыгрын выдаў у Слоніме паштоўку, прысвечаную нашаму земляку Валянціну Таўлаю (1914 — 1947). Паэту, публіцысту, змагару. На паштоўцы бачым фота Таўлая і яго ўзнёслыя радкі, напісаныя больш за 90 гадоў таму.

Усе нумары краязнаўчага месячніка "Слонімскі край" за 2016-2021 гады можна знайсці на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі "Камунікат": http://kamunikat.org/slonimski_kraj

"Слонімскі край" — краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар Сяргей Ёрш

Наш адрас: slonimskikraj@gmail.com
Спасылка на "СК" пры передруку абавязковая.